© PDF: Kamunikat.org 2023 © PDF: Kamunikat.org 2023

## ШТО НОВАГА?




Дыскусія на тэму „Ці можна змадэліраваць чалавечы інтэлект?“ да гэтага часу працягваецца. Адзін з тых, хто адстайвае прынцыповую магчымасць стварэння штучнага розуму, — вядомы вучоны правадзейны член Акадэміі навук Украінскай ССР Мікалай Амосаў. Яго гутарка з карэспандэнтам агенцтва друку Навіны датычыць перспектыў развіцця гэтага напрамку ў навуцы.

— Мікалай Міхайлавіч, якія праблемы ўзніклі ў працэсе мадэліравання інтэлекту?

— Перш за ўсё аказалася, што трэба расшыфраваць гэта паняцце і вызначыць, што, уласна, „перакладаецца“ на мову формул. Мы зыходзілі з гіпотэзы: розум — мэтанакіраванае дзеянне з мадэлямі. Само па сабе гэта вызначэнне ўжо сёе-тое дае. Можна ж ствараць мадэлі і аперыраваць імі паза мозгам. Зразумела, што яны абмежаваны, таму што не ўзнаўляюць усіх якасцей жывой сістэмы. І суб'ектыўныя, таму што ў іх па задуме „мадэльера“ адкідваецца тое, што, на яго думку, не галоўнае і непатрэбнае. ЭВМ далі нам магчымасць стварыць дзеючыя мадэлі, у якіх закладзены структура і функцыя. Яны могуць быць настолькі складанымі, што здольны працаваць без чалавека.

Мы зыходзілі таксама з таго, што штучны розум — гэта мадэліруючая ўстаноўка, якая ажыццяўляе фарміраванне мадэляў і мэтавыя дзеянні з імі. І тут мы падышлі да самага галоўнага пытання — што ж кіруе гэтым працэсам? Так узнікла неабходнасць „перакласці“ чалавечыя крытэрыі, нават пачуцці на машынныя. Калі скарыстаць іх у якасці энергетычнай базы, яны будуць адыгрываць сваю кіруючую ролю. Так мы і зрабілі.

Асобай праграмы пры мадэліраванні патрабавала і складанасць знешняга асяроддзя, лішак колькасці рэцэптараў, што ўспрымаюць яе. Трэба было выдзеліць галоўнае, абагульніць падобнае і гэтак далей. Адсюль вызначэнне чатырох тыпаў крытэрыяў, неабходных для работы кожнага розуму: універсальныя, спецыфічныя, рабочыя, ацэначныя.

Навошта нам спатрэбілася гэта гіпотэза? Мы імкнемся даказаць, што чалавечы інтэлект не ёсць штосьці абсалютна арыгінальнае і што ён працуе на толькі яму ўласцівых прынцыпах. Мы перакананы, што існуюць універсальныя законы розуму, адна з праяў якіх — чалавечы розум.

Часта пярэчаць: маўляў, пачуцці, асабліва інтуіцыю чалавека, нельга змадэліраваць. Але ж пачуцці не што іншае, як успрынятае пэўнымі рэцэптарамі хімічных працэсаў арганізма. Інтуіцыя — гэта распазнаванне ў падсвядомасці. Зразумела, што з „нічога“ рашэння не ўзнікне. А значыць, інтуіцыю мы павінны атрымаць аўтаматычна, змадэліраваўшы падсвядомасць.

Кібернетыкі разумеюць свядомасць як праграму выдзялення самай галоўнай для данага моманту мадэлі, як праграму аптымізацыі дзеянняў розуму ў прасторы, часе і адносінах. Мы выдзелілі некалькі паверхаў свядомасці. Гэта вызначэнне сябе ў часе, выдзяленне сапраўднага і ўяўнага, вызначэнне сябе і іншых асоб і пераўвасабленне. Можна назваць яшчэ і пяты ўзровень: самапазнанне.

— Як вы ацэньваеце вынікі зробленага?

— Мы далі кібернетычную інтэрпрэтацыю паняцця „розум“. Як кажуць, расклалі сістэму яго работы па паліцах. У кожнага аўтамата ёсць свой маленькі „інтэлект“, і яго мадэліраванне не выклікае цяжкасцей. Яны ўзнікаюць, калі мы падыходзім да ўзнаўлення асаблівасцей чалавечага розуму. І нам удалося ўзнавіць некаторыя яго „якасці“. Мы „памацалі“ пачуцці, свядомасць і падсвядомасць. І нават у перакладзе

(Працяг на стар. 4)

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

# 50 год на сцэне

Наша размова з **Л. Р. Рахленкам** — вядомым беларускім савецкім акцёрам і рэжысёрам, народным артыстам СССР, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР — адбылася ў невялікім, але ўтульным і багатым музеі Беларускага тэатра імя Я. Купалы. Вакол нас мноства фатаграмаў з колішніх і нядаўніх пастановак, афішаў, рэквізітаў, што наглядна адлюстроўваюць 56-гадовы шлях творчых здзяйсненняў гэтай вядучай у беларускім тэатральным мастацтве сцэны, настройвалі да разважанняў і ўспамінаў.

— Леанід Рыгоравіч, што прывяло вас на тэатральную сцэну?

— А хто ж яго ведае? — усміхаецца мой размоўца. — Хіба ж першыя ўражанні з тэатра. Бачыце, нарадзіўся я ў 1907 годзе на Гомельшчыне, у вёсцы Церахоўка, дзе мой бацька быў прадаўцом нафты для жыхароў з навакольных сёлаў. Ужо пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі наша сям'я пераехала ў Гомель, і там я ўпершыню ўбачыў, што такое электрычнасць, дамы ў некалькі паверхаў, тратуары. І вось калі я ўжо вучыўся ў першым класе гімназіі, трапіў на спектакль для школьнай моладзі „Стёпка-Растрёпка“. Гэта была мая першая сустрэча з тэатрам. Ён заваражыў, запаланіў мяне! З таго часу я з галавой акунуўся ў тэатральную самадзейнасць, арганізаваў драмгурток у гімназіі, ставіў п'есы і сам выконваў у іх розныя ролі. Гэта была мая стыхія! У 1924 г. я паступіў у Ленінградскі інстытут сцэнічнага мастацтва, займаўся на двух факультэтах: акцёрскім і рэжысёрскім, наведваў таксама лекцыі па гісторыі мастацтва. Тады выкладалі такія славы, як Л. С. Віўен, С. Э. Радлаў, П. П. Гайдэбураў, а лекцыі па выяўленчаму мастацтву вёў унук вялікага рускага жывапісца К. Брулава — П. А. Брулаў. Упершыню ўступіў я на сцэну прафесіянальнага тэатра ў 1926 годзе ў Ленінградзе, у Рабочым тэатры пралеткульта, яшчэ будучы студэнтам. Але адразу пасля заканчэння інстытута ў 1928 годзе прыехаў у Мінск і з таго часу нязменна працую ў Беларускім тэатры імя Я. Купалы.

— Ваша першая роля ў ім?

— Гэта была надта складаная роля ў п'есе Ю. Яноўскага „Ярасць“. Селяніну, ролю якога я выконваў, белагвардзейцы ў часе Грамадзянскай вайны адрэзалі язык. Складанасць ігры заключалася ў тым, што ў рэтраспектыўных сцэнах селянін гэты гаварыў нармальна, а пасля акалечання ворагамі дамаўляўся з людзьмі мімікай і жэстамі. І ўсё ж ён раскрыў змову непрыяцеляў народнай улады, улез на царкоўную званіцу, ударамі ў званы падняў на ногі ўсю вёску. Змоўшчыкі страляюць у яго, і ён мёртвым падае са званіцы. Бачыце, мой акцёрскі дэбют не належаў да лёгкіх, але ўспамінаю я яго з вялікай прыемнасцю. Таксама і мая першая рэжысёрская праца — „Жыццё кліча“ У. Біль-Белацаркоўскага — таксама патрабавала глыбокага роздуму і вялікіх намаганняў. І так яно пайшло. Не паспеў аглянуцца, як давялося ўдзельнічаць у 37 п'есах і каля 10 год працаваць мастацкім кіраўніком тэатра. А ў кожнай пастаноўцы, больш таго — у кожным выхадзе на сцэну заставалася часцінка майго сэрца.

— А ролі, якія вы найбольш палюбілі?

— Кожная роля, што мне давялося



выконваць, і кожная п'еса, над якой я працаваў, для мяне блізкія і каштоўныя. Але найбольш захапілі мяне „Хто смяецца апошнім“ К. Крапівы, якую я рэжысераваў і выконваў у ёй ролю Гарлахвацкага, „Фландрыя“ В. Сарду аб паўстанні супраць чужаземнага прыгнёту; з вялікім захапленнем я працаваў над „Крамлёўскімі курантамі“ М. Пагодзіна. З прыемнасцю ўспамінаю турнэ нашага тэатра ў 1955 годзе па Народнай Польшчы і асабліва пабыўку ў Беластоку і той гарачы прыём, з якім мы ў вас сустрэліся.

— Над чым цяпер працуеце і вашыя творчыя планы на будучыню?

— У сучасны момант працую над дзвюма новымі ролямі. У п'есе „Пратакол аднаго пасяджэння“ Геман, рыхтую ролю кіраўніка буйнага будаўнічага трэста. Гэты твор прысвечан маральным праблемам нашага сучаснага жыцця: сумленню, адказнасці, грамадзянскай мужнасці. А другая роля ў новай камедыі А. Макаёнка „Святая прастата“. Надта ж арыгінальная п'еса. У ёй мне давядзецца выконваць ролю міністра фінансаў адной з капіталістычных краін. Як бачыце, я вельмі люблю процілегласці. Бо так яно ўжо ёсць у нашай акцёрскай прафесіі: раз пішаш свой персанаж акварэллю, другі — пастэллю, трэці — маслам. На сцэне акцёр павінен жыць поўным і разнастайным жыццём. Цяпер увесь тэатр на свеце робіць паварот да акцёра, яго непасрэднага кантакту з гледачом. Наогул жа я сам асабіста прытрымліваюся такога погляду: калі ўжо галава лысая, дык гэта яшчэ не прыкмета старасці, а вось калі ўжо сэрца лысае — гэта ўжо напэўна старасць! А калі жывеш творчым жыццём, яно адганяе думкі аб старасці.

— Ад усяго сэрца жадаю вам, Леанід Рыгоравіч, здароўя, доўгіх год жыцця і многіх творчых здзяйсненняў для дабра беларускай сцэны.

Гутарыў **Мікалай Гайдук**
Фота **У. Казлова**



*Сцэна са спектакля „Апошняя ахвяра“ А. Астроўскага. У ролях: Прыбыткоў — народны артыст СССР Л. Рахленка, Юлія — заслужаная артыстка БССР Т. Аляксеева.*

**SPOŁDZIELNIA INWALIDÓW „POSTĘP” W HAJNÓWCE ZATRUDNI — 20 inwalidów posiadających grupę inwalidzką do pracy przy szyciu ubrań roboczych w zakładzie zwartym w Hajnówce.**

**Inwalidzi nie posiadający kwalifikacji zostaną przyuczeni do wykonywania określonej pracy w krawiectwie.**
Bliższych informacji udziela Komórka Kadr w biurze spółdzielni przy ul. Warszawskiej 59.

K 287-1

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota — 7.II.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Mat. 7.00 Wskaz. met. 7.30 Upr. rośl. 8.25 Pr. I prop. 8.40 Pr. dnia. 8.45 Olimp. Stud. Mł. 11.35 Radz. Kazach. i Turk. 12.05 Bajk. Koncert Życz. 12.55 Olimp. 15.15 Studio 2. 15.30 Pr. rozr. 15.45 Obwielka rzeka Syberii. 16.00 Spotk. z A. Barinim. 16.50 Stud. Olimp. 17.10 TV NRD przedst. 18.25 Wschód w samo południe — film dok. 18.50 Pr. rozr. 19.25 Dobr. 19.30 Monitor. 20.15 Olimp. 20.35 Strzały w Dodge City — odc. I filmu ser. 21.30 Stud. Olimp. 21.55 Bukiet róż z Montreaux. 22.40 Martwy sezon — film fab. radz. 0.40 Stud. Olimp.

**Niedziela 8.I.** 6.10 Tech. Rol. Wskaz. met. 6.40 Upr. rośl. 7.10 Kurs Rol. 7.45 Przyp., radz. 7.55 Now. w domu i zagr. 8.20 Pr. dnia. 8.25 Antena. 8.45 Olimp. Stud. Mł. 11.45 Lekt. Pegaza. 12.00 Dzien. 12.20 Olimp. 13.15 Dla dzieci. 13.55 Refl. ob. 14.10 Olimp. 15.20 Los. Duż. Lotka. 15.35 Piórk. i węglem. 16.00 Krzysztof Kolumb — film ser. 17.05 L. Kydryński przedst. Sammy Davis Junior. 18.05 Progi i bariery. 19.15 Wieczor. 19.30 Dzien. 20.15 Olimp. 20.45 Nana — odc. I filmu ser. ang. 21.30 Utwory dla moich przyjaciół. 22.25 Olimp.

**Poniedziałek — 9.II.** 8.45 Olimp. Stud. Mł. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Stud. Olimp. 17.20 Dla dzieci. 18.05 Nafta dla Wenezueli — rep. 18.30 Stülpner — zbójnik z gór — film ser. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Stud. Olimp. 20.45 Teatr Tel. Tylko Beatrycze. 23.00 Dzien.

**Wtorek — 10.II.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Mat. 8.45 Olimp. Stud. Mł. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Bot. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Stud. Olimp. 16.50 Dzien. 17.00 Palestyńczycy. 17.25 X Y Z cz. II. 17.55 Stud. Tel. Mł. 18.45 Fakty, op., hip. 19.15 Przyp., radz. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Stud. Olimp. 20.45 Trzecia granica — film ser. 21.55 Świat i Polska. 22.10 Dzien. 22.25 Stud. Olimp.

**Środa — 11.II.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Bot. 7.30 W drodze do nowego. 8.45 Olimp. Stud. Mł. 12.45 Tech. Rol. Wskaz. met. 13.25 Mat. 14.20 Kurs przygot. na wyższe ucz. Fiz. 15.20 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Stud. Olimp. 17.30 Dla dzieci. 18.00 Los. Mał. Lotka. 18.15 Pr. muz. 18.40 Anatomia sukcesu. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Stud. Olimp. 20.45 Major Dundee — film fab. USA. 22.45 Dzien. 23.00 Stud. Olimp.

**Czwartek — 12.II.** 6.00 Tech. Rol. Wskaz. met. 6.30 Mat. 7.00 Mat. 7.30 Hod./zwierz. 8.00 Mat. w szk. 8.45 Olimp. Stud. Mł. 12.55 Olimp. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Stud. Olimp. 17.10 Ekran z Brat. 18.15 Poligon. 18.35 Pegaz. 20.15 Stud. Olimp. 20.45 Szach królowej brylantów — film krym. radz. 22.15 Dzien. 22.30 Stud. Olimp.

**Piątek — 13.II.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Hod. zwierz. 8.50 Olimp. Stud. Mł. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Tech. Rol. Mat. 14.30 Kurs przygot. na wyższe ucz. Mat. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Stud. Olimp. 17.30 Dla dzieci. 18.05 Dla mł. widzów. 18.30 Człowiek i przyroda — film dok. 18.55 Polak w Bagdadzie — rep. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Stud. Olimp. 20.45 Teatr Małych Form. 21.35 Pr. publ. 22.15 Dzien. 22.30 Pr. muz. 22.55 Stud. Olimp.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 6.II.** 8.15—11.30 Trans. z Olimpiady. 14.10 Spektakl dla dzieci. 16.15 Hokej. ZSRR—USA. 18.15 Filmy anim. 19.30 Koncert. 20.10 Tańczcie z nami. 20.35 Olimpiada.

**Sobota 7.II.** 6.55 Pr. dnia. 9.30 Trans. z Olimp. 12.00 Przegl. międzynar. 12.15 Koncert. 14.00 Spektakl dla dzieci. 14.40 W świecie zwierz. 15.40 Film fab. 17.35 Film fab. 19.30 Śpiewa J. Chrystowa. 20.20 Trans. z Olimp.

**Niedziela 8.II.** 6.55 Pr. dnia. 9.00 Film dok. 10.05 Trans. z Olimp. 12.30 Spektakl dla dzieci. 13.00 Kiosk muz. 13.40 Film fab. 15.15 Hokej. ZSRR—PRL 3 terc. 16.15 Film dok. 16.45 Trans. z Olimp. 18.00 Klub film. 19.30 Romanse rosyjskie. 20.00 Trans. z Olimp. Hokej CSSR —USA.

## КІНО

**Białowieża** U kresu — węg. 10—11. Osobliwa miłość — wł. 12—13. Kalina czerwona — radz. 14—15.

**Czeremcha** Heca — RFN — 10—11. Dzieje grzechu — pol. 14—15.

**Czyże** Był sobie drozd — radz. Qeimada — wł. 11—15.

**Dubicze Cerkiewne** Komedia pomyłek — pol. Okna czasu — węg. 11—15.

**Gródek** Ani słowa o futbolu — radz. 14—15.

**Kleszczele** Dzień oczyszczenia — pol. 10—11. El Dorado — USA 12—13. Nie ma róży bez ognia — pol. 14—15.

**Michałowo** Prywatny detektyw — USA 10—11. Jeremiach Johanson — USA 12—13. To ja zabiłem — pol. 14—15.

**Milejczyce** Timo Rinnelt porwany — NRD 10—11. Kapitan Mikula Mały — jug. 12—13. Dzień szakala — ang. 14—15.

**Narew** Rajdowa sympatia — czes. W królestwie ducha gór — jug. 11—15.

**Narewka** Przygody Hucka Finna — radz. Godzina za godziną — pol. 11—15.

**Nurzec** Bez wyraźnych motywów — fr. 10—11. Odstrzał — USA 12—13. Wążżżż... USA 14—15.

**Orla** Pierwsza spokojna noc — wł. Płonąca tajga — radz. 11—15.

**Rajsk** Weronika w kraju czarów — rum. Ktoś za drzwiami — fr. 11—15.

**Suchowola** Czyste ręce — rum. Dzieci lwicy z buszu — ang. 11—15.

B.Z.Graf. Zam. 271 F-2.



© PDF: Kamunikat.org 2023 © PDF: Kamunikat.org 2023

